# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ПРЫСЬВЯЧАНЫ АРХІМАНДРЫТУ
ЛЬВУ ГАРОШКУ

Год XXV № 1 (149)

1978



ПАДПІСКА »БОЖЫМ ШЛЯХАМ« НА 1978 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.
Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.
Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.
Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. F. Žurnia, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N12 8HY.,
Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N 12, азначае North, а не нумар.

ON GOD'S HIGHWAY

**Year XXV** **№ 1 (149).**
**1978**

---

*MARIAN HOUSE, HOLDEN AVENUE,*
*LONDON N12 8HY.,*
*GREAT BRITAIN.*

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXV 1978 № 1 (149)



**Архімандрыт Леў Гарошка ва ўсей сваей красе і павазе навучае Божы народ**

*Біскуп Ч. СІПОВІЧ*

# АРХІМАНДРЫТ ЛЕЎ ГАРОШКА

**(26. II. 1911 — 28. VII. 1977)**

Жывой стаіць перад нашымі вачамі постаць высокая, танклявая, з кустом сівой барады, з носам шырокім арлінbackым, з вачамі чорнымі гаручымі, упартымі. Помнім ягоныя энэргічныя рухі, тараплівую паходку, французкі бэрэт на галаве . . .

Айцец Леў! . .

Пазнаеш яго здалёк. Быў ён заўсёды заняты, заўсёды сьпяшаўся, а калі й прысеў, то хутка выймаў з кішэні неадступны свой спадарожнік блякнот і натаваў. Не расставаўся ён такжа з багата-складаным ножыкам, а-но ў патрэбе ёсьць чым і кусок хлеба адкроіць і яблыка адрэзаць, а то й корак выцягнуць з бутэлькі, каб пачаставаць сяброў напіткам, хаця сам нават не панюхае няхай-сабе й найлепшага французкага віна . . .

А ў пакоі айца Льва?

Гэта няважна, дзе ён будзе жыць: у манастыры Айцоў Лазарыстаў у Парыжы, ці ў Марыян Гаўз у Лёндане, ці ў Марыянаў у Рыме. Усюды у яго на сьцяне будзе той самы любімы абраз Хрыста, той самы крыж, тыя самыя абразы-малюнкі ягонага вернага прыслужніка Віктара Жаўняровіча. Усюды таксама знойдзеш у яго масу розных прыладаў: шылаў, далотаў, адвёртак . . ., бо-ж ён быў самавыстарчальным. Усё сам — як і ягоны бацька Юры — умеў, а калі й ня ўмеў, дык мусіў зрабіць. Як памятка ягонага рукадзельля дагэтуль стаяць плот ля гароду Марыян Гаўз і ў садзе пчаліная хатка, а таксама падлога-паркет з дубовых досак у школе сьв. Кірылы Тураўскага.

Так, шмат розных прыладзьдзяў меў а. Леў, але-ж гэта ўсё было толькі дабаўкай ці разрыўкай для ягонай кіпучай дзейнасьці. Што ён запраўды зьбіраў, вышуківаў, купляў — гэта кніжкі, асабліва беларускія. Пачаў ён іх зьбіраць будучы яшчэ вучням Беларускай Навагрудзкай гімназіі. У доме янога бацькі ў Трашчычах — як ён сам кажа ў сваіх успамінах — была ўжо значная бібліятэчка беларускіх кніжак і часапісаў, зь якой ён сам і ягоныя сябры карысталі для зладжаньня спэктакляў або дакладаў. Любоў да кніжкі — без сумніву гэта характэрная рыска айца Льва. Яны былі яму неабходныя дзеля ягоных шматлікіх зацікаўленьняў: багасловіе, гісторыя беларускай Царквы, гісторыя літаратуры, мовазнаўства, этнографія, прыродазнаўства, мэдыцына . . . — вось гэта галіны ведаў, якімі ён цікавіўся усей сваей душой. Годзе вокам акінуць ягоныя працы, архівы, розныя запіскі, каб пераканацца, што а. Леў быў волат працы і беларускі энцыкляпэдыст.

Абсяг зацікаўленьняў айца Льва быў так шырокі, што не хапала яму часу паглыбіць некаторых ведаў, а нават ужо і тое сабранае пусьціць у рух, надрукаваць. Так яно сталася з ягоным »Зборнікам беларускіх народных прыказкаў і прымаўкаў«, якіх запісаных мае на 382 старонках машынапісу 8253. У прадмове да »Зборніка« чытаем: »Да гэтага часу ўжо зьявілася нямала большых і меншых зборнікаў беларускіх народных прыказкаў, але нажаль яны ўсе далёка ад таго, каб паказаць увесь скарб беларускае народнае мудрасьці. Гэты зборнік мае на мэце запоўніць тэтую нястачу — **сабраць усе** беларускія прыказкі і пагаворкі разам«. Значыць зборнік а. Л. Гарошкі меў сабраць у адно ўсё тое, што дагэтуль было расьцярушаным па розных кнігах этнографаў XIX-XX ст.ст. Нажаль, не хапіла а. Льву ані часу ані сілаў, каб урэчаісніць гэтакі вялізны плян. Зборнік а. Льва канчаецца літарай М, а ўсе ім запісаныя прыказкі знаходзяцца ў альфабэтычным парадку, пачынаючы ад А.

Вялікая, цікавая праца, але не закончаная і кульгае мэтадычна. Аўтар зусім не падае крыніцаў, з якіх ён запісаў у свой зборнік прыказкі.

Падобна маецца справа і са слоўнікам больш патрэбных рэлігійна-царкоўных тэрмінаў у лацінска-грэцка-стара-славянскай-беларускай мовах. Невялікі, 18 старонак машынапісу рукапіс, але без сумніву ён быўбы вельмі карысны, каб выйшаў у сьвет друкам.

Шмат яшчэ іншых працаў пачатых і незакончаных пакінуў па сабе а. Леў, але мы яму ўдзячныя і за тую багатую спадчыну, якая ўбачыла сьвет у форме друкаў. Успомнілі мы іх пры іншай нагодзе*. Тут варта яшчэ раз падкрэсьліць, што »Божым Шляхам«, якога ініцыятарам і доўгалетнім рэдактарам быў а. Леў, ёсьць найлепшым для яго помнікам. Таксама шмат дабра зрабілі і яшчэ зробяць ягоныя кніжкі: жыцьцё сьв. Эўфрасіні Полацкай, Беларусь у датах і ліках і сама апошняя »Навука і рэлігія«, якая выйшла з друку даслоўна пара дзён перад сьмерцю аўтара.

Айцец Леў Гарошка пісаў простым стылям, чыстай прыгожай беларускай мовай. Ён ка-

---

*) Пра а. Льва Гарошку з біографічнымі дадзенымі глядзі артыкул А. Дзедзінкі: »*Айцец Леў Гарошка — архімандрыт*«, »Божым Шляхам«, Нр. 1 (94), студзень-люты 1966.

рыстаў з твораў беларускіх пісьменнікаў, а таксама з беларускага фальклёру, які ён ведаў як рэдка хто іншы.

Быў ён добрым прапаведнікам і палкім прамоўцам, прыгатаваным дакладчыкам. Гаварыў ён з верай і пераконаньнем. Часам слухачы пабайваліся, што ягоныя грудзі і голас могуць надарвацца, асабліва, калі паносіў яго прыродны тэмпэрамант. Ад самага дзяцінства наш Леў ішоў змагарным цяжкім шляхам: перш, каб здабыць асьвету, пасьля, каб яе выкарыстаць для свайго народу. Як толькі распачаў сьвятарскую працу, польская паліцыя праславутага Навагрудзкага ваяводы Костэк-Бернацкага не пакідала яго ў супакоі ані на крок, аж пакуль наканец высяліла з надгранічнай паласы. А ў Баранавічах, калі немцы-нацысты меліся вывесьці на работы ў Нямеччыну школьную моладзь, Гарошка ня гледзячы на пагрозу сьмерці, сказаў моладзі не прыхадзіць у школу і ратавацца ўцёкамі.

Усе, хто працаваў з а. Гарошкам, добра ведаюць, што ён быў адчайна-сьмелы і ў патрэбе быў гатовы прынесьці жэртву са свайго жыцьця.

У асобе айца Льва гарманійна аб'ядналіся рыскі добрага сьвятара і стойкага беларускага патрыёты. Пры ўсіх сваіх занятках, ён не выпускаў з рук іерэйскага часаслова, ён заўсёды служыў сьв. Літургію і вельмі часта ахвяроўываў яе за дарагую ягонаму сэрцу Беларусь. А колькі-ж ён зрабіў дакладаў і меў прамоваў з нагоды урачыстых акадэміяў у дзень 25 Сакавіка і Слуцкага паўстаньня?! Патрыятызм айца Льва быў шчыры, бяз ніякіх кампрамісаў, абаснованы на паважных досьледах.

Ня можна прайсьці моўчкі і той важны дар у жыцьці чалавека — веданьне моваў. Апрача сваей роднай беларускай мовы, а. Леў добра ведаў украінскую, польскую, расейскую; бяз цяжкасьцяў чытаў і гаварыў па нямецку, па французку; ён чытаў і гутарыў у патрэбе па ангельску і італійску, студыяваў у Львоўскай акадэміі старую грэцкую і гэбрайскую. Заўсёды адчуваў недахоп лацінскай мовы, бо гімназія, якую ён скончыў, была матэматычна-фізычнага тыпу і таму паміма сваей працавітасьці і пазьнейшых »давучаньняў« у лаціне ён ня быў моцны. Веданьне аднак столькіх і гэтак важных для эўрапэйскай культуры моваў уводзіла айца Льва ў асяродзьдзе эўрапэйскай эліты. А ведаючы добра гісторыю і дасягненьні свайго народу, ён ніколі не адчуваў перад іншымі камплексу ніжшасьці. І запраўды чужынцы, з якімі жыў ці спатыкаўся а. Леў (прыкладам Айцы Лазарысты ў Парыжы, працаўнікі Ватыканскага радыя розных нацыянальнасьцяў) высока яго цанілі і гаварылі пра яго як аб выдатным сьвятару, беларусе.

Калі а. Леў памёр так нагла і нячакана, даведаўшыся аб гэтым Папа Павал VI, прыслаў на рукі галоўнага кіраўніка Ватыканскіх радыяперадачаў тэлеграму, у якой выказваў спачуваньні з нагоды сьмерці Кіраўніка беларускіх радыяперадачаў самому галоўнаму Кіраўніку, супрацоўнікам, сваякам і Айцом Марыянам шчырыя спачуваньні. Апостальскае багаславенства і абяцаў помніць аб памёршым у сваіх малітвах. У капліцы Ватыканскага радыя а. Рабэрт Туччі, у прысутнасьці прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў, адправіў сьв. Літургію за душу сьв. памяці Архімандрыта Льва Гарошкі.

Айцец Леў памёр у Парыжы ў шпіталі імя Нэкэр, які знаходзіцца непадалёк манастыра Айцоў Лазарыстаў, дзе праз доўгія годы ён пражываў. Апэрацыя ныркавых каменьняў не ўдалася. Есьць падозраньне, што да гэтай апэрацыі наш дарагі Леў ня быў належна прыгатаваны, бо апрача каменьняў меў заражэньне крыві. Трэба было перш лячыцца, ну, але-ж а. Леў ня меў часу ... А за паважны ён быў, каб хтосьці асьмеліўся яму даваць прыказы.

Ці а. Леў прачуваў сваю сьмерць? А вось як было. Дня 22 ліпня 1977 г. у законным Доме Айцоў Марыянаў, дзе ён апошнімі гадамі жыў і працаваў у Ватыканскім радыя, калі ён спакаваўся і выбіраўся ў Парыж у шпіталь, зайшоў да мяне і передаў пачку іконкаў Маці Божай Вечнай Дапамогі, або »Страстной«. Арыгінал гэтай слаўнай з цудаў іконы знаходзіцца ў Рыме ў касьцеле Айцоў Рэдэмптарыстаў. Айцец Леў крыху сумны падаючы мне іконкі сказаў: »Вазьмі, табе прыдадуцца ... А што-ж я маю з імі рабіць?« Я ні слова ні сказаўшы ўзяў тыя іконкі, але цэлы час мяне мучыла думка: »Дрэнна будзе з айцом Львом. Ён і сам гэта прадчувае«. Калі хутка прышла з Парыжа ў Рым вестка аб сьмерці айца Льва — першы затэлефанаваў мне Віктар Жаўняровіч на просьбу Ул. Шыманца і гаварыў плачучы — едучы ў Парыж забраў я і тыя іконкі. А калі нам хацелася нейкім чынам мець памятку па сьмерці айца Льва, дык я ўспомніў пра іконкі, якія ён сам мне даў. Яны яму былі ўжо больш непатрэбныя. Спадзяёмся, што Божую Маці ён ужо назірае тварам у твар, а нам яны прыдаліся.

Жыў як леў, а памёр як ягнё. Божых шляхоў не льга сьцяміць нам маленькім...

## ВАЖНЕЙШЫЯ ДАТЫ З ЖЫЦЬЦЯ АРХІМАНДРЫТА ЛЬВА ГАРОШКІ

| | |
|---|---|
| 1911.II.26 | — радз. ў вёсцы Трашчычы, Стаўпецкага павету. |
| 1911.II.27 | — ахрышчаны і мірапамазаны ў царкве ў Турцы. |
| 1928-1931 | — вучыцца ў Наваградзкай Беларускай Гімназіі. |
| 1931-1936 | — студ'юе ў Львоўскай Украінскай Духоўнай Акадэміі. |
| 1936/37 | — прадаўжае вышэйшыя студыі ў Інсбруку, Аўстрыя. |
| 1937.X.17 | — рукапаложаны ў сьвятары Біскупам Мікітам Будкам у Львове. |
| 1937-1939 | — душпастырам у розных мясцох дыяцэзіі Пінскай: Любешаў, Грынічы, Гародна, Стоўпцы. |
| 1939.V.15 | — загадам Наваградзкага ваяводы выселены з г. зв. пагранічнай паласы; пражывае ў Збуражы каля Маларыты. |
| 1939-1944 | — працуе ў Баранавічах (Мэдыцынская Школа і інш.). |
| 1942.V.2 | — Эгзарх Антон Неманцэвіч назначае а. Льва Гарошку сябрам Эгзархальнай Рады. |
| 1944.VI.27 | — прыймае удзел у Кангрэсе ў Менску. |
| 1945 | — арганізуе беларускае душпастырства перш у Бэрліне, пасьля ў Мюнхэне. |
| 1945.IX.20 | — прыбыў у Рым. |
| 1946 | — выдае малітаўнік »Божым Шляхам«. |
| 1946.X.16 | — назначаецца Ўсходняй Кангрэгацыяй дла душпастырства сярод беларусаў у Францыі. |
| 1946.X.24 | — прыехаў у Парыж. |
| 1947-1957 | — выдае часапіс »Божым Шляхам«. |
| 1959 | — у навіцыяце Айцоў Марыянаў у Рыме. |
| 1960.I.18 | — зложыў першыя шлюбы. |
| 1960.II.13 | — а. генэрал Шкутанс пераносіць а. Льва у Лёндан. |
| 1960.X.30 | — біскупам Ч. Сіповічам назначаецца на Рэктара Б.К.М. у Вялікабрытаніі. |
| 1962.VI.10 | — зложыў вечныя шлюбы, Лёндан, капліца ў Марыян Гаўз. |
| 1962-1969 | — Рэктар Б.К.М. і ігумен законнага Дому ў Лёндане. |
| 1965.XII.16 | — атрымоўвае годнасьць Архімандрыта. |
| 1970-1977 | — Кіраўнік Бел. Сэкцыі Ват. Радыя і Рэктар Б.К.М. у Францыі. |
| 1977.VII.28 | — памёр у шпіталі ў Парыжу ў час апэрацыі. |
| 1977.VIII.8 | — паховіны на могілках сьв. Панкрацага ў Лёндане. |

## ВЫКАЗАНЫЯ СПАЧУВАНЬНІ

Айцец Леў Гарошка быў ведамы сярод усей беларускай эміграцыі. З многімі ён трымаў жывы кантакт. Сьведчыць аб гэтым багатая карэспандэнцыя, якая асталася па ім. Дзеля розных прычынаў выдаючы гэты нумар »Б. Шл.« мы яе не закранулі, але не сумніваемся, што яна ў многім лепш насьветліла-б дзейнасьць як самога Архімандрыта Льва таксама і жыцьцё беларускай эміграцыі.

Пасьля сьмерці Архімандрыта Льва многія адгукнуліся прысылаючы тэлеграмы або лісты са спачуваньнем, прыгожыя вянкі кветак на магілу або грошы-ахвяру на памятнік. Іншыя зрабілі ахвяру на Беларускую Бібліятэку і Музэй у Лёндане.

*Былі атрыманыя тэлеграмы ад:*

Папы Паўла VI, Архімандрыта Ўладзіміра Тарасэвіча, ад спадароў Цьвіркі, Урбана і Сенькоўскага; ад сям'і Махначоў; ад сям'і др. Гайдзеля; ад Клюбу »Пагоня« разам з ахвярай на памятнік; ад кіраўнікоў беларускіх радыяперадачаў у Сыднэі: Качан, Каранеўская, Лужынскі.

*Прыслалі лістоўна спачуваньні:* Мітрапаліт БАПЦ Андрэй; Спадарства В. і Р. Грышкевічы з ахвярай на ББіМ замяст вянка на магілу; ад імя БАЗА (Ню Ёрк) сп. А. Шукелойць; ад імя Галоўнай Управы ЗБВБ (Лёндан) сп. А. Міхалюк з ахвярай на памятнік; ад імя Аддзелу ЗБВБ ў Манчэстар сп. М. Яськевіч; ад імя Аддзелу ЗБВБ ў Брадфорд зложыў вянок на магілу сп. Лемяшонак; прыбылі на пахараны таксама з Брадфорд спадары Калько і Віцэнчык; прыслалі спачуваньні і вянок на магілу Айцец прот. Я. Абабурка і Спадарыня; сям'я Скрыннікаў; праф. А. МакМіллін; др. М. Смаршчок; а. прот. др. Аўгень Смаршчок з сям'ёй; сям'я Вініцкіх; сям'я Найдзюкоў; сп. Я. Ціпка; сям'я Тураў, сп-ня Н. Якубовіч і сп-ня А. Мэдыцкая разам са спачуваньнямі зложылі вянкі на магілу; сп-ва Пазьнякі; др. Я. Малецкі, сп. М. Нікан і сп. Калодка з Мэльбурн (Аўстралія); спадарыні А. К-віч і М. Т-віч з Польшчы.

*Зложылі ахвяры замяст вянкоў на магілу:* сп. А. Лашук, сям'я Дамінікоў, сп. С. Гох.

*Перэказалі тэлефанічна спачуваньні:* а. Сьцяпан Матуліс з Ноттынгам, сп. Я. Сяўковіч са шпіталя пасьля сваей апэрацыі.

*Група беларусаў з Чыкага* прыслала ахвяры на памятнік: Махначы, Сенкевіч, Беленісы, Мароз, Багдан, Чарнэцкія, сп-ня Вазновіч, Пануцэвічы, Антонік, Кучура, Н. Жызьнеўскі, Санкавіч, Рамукі, Эўдакія Жызьнеўзкая, Юзэфа Тарасэвіч, Адольфіна Тарасэвіч.

Усім беларусам, якіх мы тут ня ўспомнілі прозьвішчы, з Францыі і Англіі, а якія дапамагалі нам у той цяжкі мамэнт заладжываць справы у сувязі з пахаронамі, выказываем шчырую падзяку. Дазволім аднак успомніць спадароў Лявона Шыманца, Міхася Наўмовіча і сп. Трусава з Крэзо, а таксама мастака Віктара Жаўняровіча, якія не шкадавалі свайго часу, каб толькі дапамагчы ў розных справах. Група беларусаў з Крэзо сабрала таксама значную суму грошаў на памятнік, а група беларусаў з Парыжа на ББіМ.

Вельмі шмат дапамог нам у выпісе цела памёршага са шпіталя і перавязеньні яго у Лёндан Монсіньёр Міхась Дэкамп, цяперашні апякун ад імя Парыскага Мітрапаліта чужынцамі. Тут выказваем яму асаблівую падзяку. Таксама айцу Язэпу Сельскаму, цяперашняму Генэралу Айцоў Марыянаў, які спэцыяльна прыехаў з Рыму і прыймаў удзел ў урачыстасьцях паховінаў. Ён сказаў ў ангельскай мове прынагодную казань. На похаранах былі прысутныя Монс. К. Ручс, латыш; а. Язэп Бабік, капэлян славакаў; некалькі Айцоў Марыянаў палякаў з Лёндану і Фавлей Корт, на чале з а. Пісякам, Правінцыялам. Усім ім выказваем тут шчырую падзяку.

## ВОДГУКІ Ў РАДЫЁ І ПРЭСЕ

Вестка пра сьмерць Архімандрыта Льва хутка разыйшлася па сьвеце. На другі дзень даведаліся аб ей у Польшчы і ў Савецкім Саюзе, а гэта перадусім з радыяперадачаў Ватыканскіх і з радыя »Свабода«. Ватыканская радыя падало даволі абшырныя весткі аб жыцьці і дзейнасьці а. Гарошкі ня толькі ў беларускай мове, але таксама ў іншых мовах. У капліцы, якая знаходзіцца ўнутры таго будынку, скуль перадаюцца на розных мовах Ватыканскія радыяперадачы, была адслужана сьв. Літургія за душу сь. п. а. Льва, а таксама зьмешчана зацемка разам з ягоным здымкам у штомесячніку »Праграмы Ватыканскага Радыя« (1977, Нр. 10). Тут пададзём некаторыя часапісы і газэты, а таксама Камунікаты з весткамі пра асобу а. Гарошкі і ягоную сьмерць.

Камунікат Беларускай Каталіцкай Місыі, Лёндан, 4.VIII.1977.

Камунікат Беларускага Каталіцкага Душпастырства ў Францыі, Нр. 24, Парыж, лістапад 1977 г.

Камунікат ЗБВБ, Нр. 81, сьнежань 1977.

Беларус, Нр. 245, верасень 1977. Перадрук Камунікату БКМ.

Час, Двумоўны Беларускі Часапіс у З.Ш.А., Нр. 11, жнівень 1977.

Radiovaticana, № 10, Programmes 1977.

Radio Vaticana Radiogiornale, Servizi Giornalistici e Informativi, Anno XXI, N. 208, 29.VII.1977; N. 209, 30.VII.1977.

L'Osservatore Romano, 1-2 agosto 1977, pag. 4: »Messa in suffragio dell'Archimandrita Leo Horosko«.

Kamunikat Paryskaha Biskupstva dla Katalikoŭ Uschodniaha Abradu, Paryž, 29.VII.1977.

La Croix, 5.VIII.1977.

Finchley Press, Aug. 12 1977: »East Finchley funeral for Byelorussian priest«.

MIC from Rome, October 1977: »A Tribute Well Deserved«.

Як звычайна здараецца, калі камунікаты пішуцца на скорую руку, бываюць тады нават значныя памылкі. Тут мы прынамсі пару з іх жадаем выправіць. Айцец Архімандрыт радзіўся ў вёсцы Трашчычы. Хіба не адзін чужынец правідлова яе ня выгаварыць і не напішыць! Рукапалажыў яго у сьвятары не Мітрапаліт Шэптыцкі, але Біскуп Мікіта Будка.



**У Беларусі ёсьць вёска Трашчычы . . . Непадалёк яе гасьцінец.**

**У той вёсцы ёсьць і такія прыгожыя сялянскія хаты. У адной з іх жылі бацькі а. Льва.**





**Юры і Стэпка Гарошкі, бацькі а. Льва.**




**Лес, краскі... Хутка праляцелі годы. А дзе мой сын Лёва? Тады ён буў ужо у трэцяй сталіцы сьвету — у Лёндане, 1966 г.**



**Апошняя прыслуга Юраму, 21. X. 1967, БССР.**

**Яго нясьлі на могілкі ў адкрытай труне.**






**І супачылі на векі:**

**ТС ☦ РБ**

**Юрко**

**ГАРОШКО**

**Сын Пракопа**

**ж. 82 г. П. 1967 г.**

**ПАМ. АД ДЗЯЦЕЙ**

**В. П.**

**Т. ☦ С.**

**Р. Б.**

**СТЭПКА**

**ГАРОШКО**

**дач. ВАСІЛЯ**

**ж. 79 г.**

**пам. 1967 г. 10 сак.**

**Памяць ад мужа**

**і дзяцей.**

**В. П.**



**Гімназіст Наваградзкай Беларускай Гімназіі**



**Сэмінарыст Львоўскай Духоўнай Акадэміі**



**Сьвятар на векі, 17. 10. 1937**



**Рым, перад базылікай Маці Божай, 1945**



Exarch
der gr.-Kat. Kirche
in Weissruthenien
Ekzarch
hr.-[illegible] Cerkvy
na [illegible]rusi
Albertin bei Slonim
„2" траўня 1942
№ 24.

Да
Вялебнага Айца Льва Гарошкі
у Баранавічах.

[illegible] Вашу Вялебнасьць сябрам Рады Экзарха гр.-кат. Царквы на Беларусі и [illegible]/Старшынёю/ Экзархатскага Суду да [illegible]ньня.

а. А. Неманцэвіч
Экзарх гр.-кат. Царквы на Беларусі.

**Эгзарх а. Антон Неманцэвіч назначае а. Льва Гарошку сябрам Рады і Старшынёй Эгзархальнага Суду, 2.V.1942.**



Зьведываем Ватыкан, 8.XI.1945.
Айцы П. Татарыновіч, Л. Гарошка, Ч. Сіповіч



25 Сакавіка, Рым 1946 г.



Адна з мілых сустрэчаў у Вечным Горадзе сьвятароў з жаўнерамі, 3.XI.1945.



Сабраліся ў сваей сьвятарскай сям'і. Рым, перад Лятэранскай Базылікай, 24.X.1954.



Тут працаваў



Тут маліўся



Тут разважаў
У пакоі Айцоў Лазарыстаў у Парыжы



**Сьвятыя абрады жан:**



**Сярод студэнтаў. Лювэн, 24.X.1949.**



мства і хросту. Парыж



**Яшчэ адзін наш сябра адыйшоў у вечнасьць. Парыж**



Люрд, 23.VII.1949. Працэсія



У Люрд 1949 (?). Айцы Л. Гарошка, прот. Васіль Гапановіч,
а. дзекан М. Маскалік і а. Францішак Чарняўскі




У дарозе на Зьезд »Пакс Романа«, ліпень 1951.

Пасьля сьв. Літургіі ў Армянскай Катэдры, Парыж



Розныя нагоды, але заўсёды са сваімі людзьмі.
Францыя



Вялікдзень. Парыж, 13.IV.1947 г.



**Адна з сустрэчаў. Мюнхэн, 1958.**
**А. Леў Гарошка, а. У. Салавей, М. Абрамчык, а. Ч. Сіповіч**




**Мастак Віктар Жаўняровіч, неадступны памачнік а. Льва**



**Удзел у канфэрэнцыі. Мюнхэн, 25.VII.1958.**



**Пасьля сэсіі сяброў Інстытуту, Мюнхэн, 28.VII.1955.**



**Мюнхэн, 25.VII.1958.**
**Др. Тэодоровіч, П. Урбан, а. Л. Гарошка**



**Мюнхэн, 27.VII.1958.**
**Барбара Вежбаловіч, а. Л. Гарошка**



**Розныя нагоды, але а. Леў заўсёды са сваімі суродзічамі. Францыя**





Вясельле, хрысьціны — айцу Льву добрыя гадзіны! Парыж

**Розныя нагоды, але а. Леў зіўсёды са сваімі суродзічамі. Францыя**





**Трэба-ж гасьцям паказаць гэта дзіва! Парыж, 1975**



**Лёндан, Марыян Гаўз**



**Сярод сваіх у Лёндане**



**На прагулцы. З першымі вучнямі школы сьв. Кірылы Тураўскага у Лёндане. 1962 г.**





**З вучнямі школы сьв. Кірылы Тураўскага з Лёндану. Кэнігштайн**



**З моладзьдзю з Мюнхэна. Кэнігштайн**



**Айцец Леў Гарошка быў сябрам генэральнай Капітулы Марыянаў ад імя беларускага Дому Марыянаў. Рым, 18.VII.1963.**



**Айцы Я. Гэрмановіч, Л. Гарошка, Ч. Сіповіч. Лёндан, 1964.**



**Чые пчолы лятуць у поле,**
**А мае у садочку . . .**



**Чалавек розных зацікаўленьняў: сьвятар, пчаляр, касар . . .**
**Лёндан, Марыян Гаўз**



**За волю народаў! Маніфэстацыя ў Лёндане, 24.VIII.1968.**





**Удзельнікі Зьезду БАКА »Рунь«. Лёндан, 2.VIII.1953.**



**Вечар Зьмітрака Бядулі. Лёндан**




**Паховіны. Лёндан, 8.VIII.1977.**





**Помнік на магіле а. Архімандрыта Льва Гарошкі.**
**Лёндан, магільнік сьв. Панкрацага**






Старонкі са »Зборніка Беларускіх Народных Прыказкаў і Прымаўкаў«

## З РУКАПІСНАЙ СПАДЧЫНЫ

Айцец Архімандрыт Леў быў заўсёды вельмі занятым, але выглядае, што найбольш ён быў занятым тады, калі выдаваў у Парыжы »Божым Шляхам« і калі быў назначаны кіраўніком беларускіх радыяперадачаў у Ватыканскім радыё.

У першым выпадку доказам ёсьць 10 гадавікоў »Б.Шл.« у гадох 1947-1957 (усяго 81 нумары); у другім вялікая колькасьць радыяперадачаў, якія асталіся ў форме машынапіснага матарыялу, акуратна зложанага ў папках. Яны цяпер знаходзяцца ў архіве Беларускай Сэкцыі Ватыканскага Радыя, а таксама ў форме аўтэнтычных копіяў у Беларускай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

Гэты цэнны матарыял мы будзем у меру магчымасьцяў друкаваць у нашым часапісе ў будучыні. У гэтым нумары падаём тры рознага характару радыя-гутаркі:

1) Гутарка у дзень Дабравешчаньня 25 Сакавіка;
2) Гутарка аб рэлігійных матывах у беларускай народнай творчасьці;
3) Гутарка на тэму: »Дом сьв. Апостала Пятра ў Капэрнауме«.

## СЬВЯТОЕ ЭВАНГЕЛЬЛЕ НА ДАБРАВЕШЧАНЬЕ, ЗАПІСАНАЕ Ў СЬВЯТОГА ЛУКАША Ў РАЗЬДЗЕЛЕ ПЕРШЫМ, I, 26-38

У шосты месяц быў пасланы анёл Гаўрыіл ад Бога ў галілейскае места называнае Назарэт к дзеве, заручанай з мужам іменем Язэп з дому Давідавага; імя-ж дзевы — Марыя. І ўвайшоўшы к ёй анёл сказаў: радуйся, поўная ласкі, Господ з табою; багаслаўлёная ты між жанчынаў. Яна-ж як пачула яго, стрывожылася ад ягоных слоў і думала: што-б гэта было за такое прывітаньне? І сказаў ёй анёл: ня бойся, Марыя, бо ты знайшла ласку ў Бога. І вось зачнеш у лоне і народзіш сына і назавеш яму імя Ісус. Ён будзе вялікі і Сынам Найвышэйшага назавецца і дасьць Яму Госпад Бог пасад Давіда, Ягонага бацькі. І будзе валадарыць у Якубавым доме давеку і Ягонаму валадарству ня будзе канца. Марыя-ж сказала анёлу: як-жа гэта станецца, калі я ня знаю мужа? І сказаў ёй анёл у адказ: Сьвяты Дух зойдзе на цябе і сіла Найвышэйшага ахіне цябе, таму і тое, што народзіцца ад цябе Сьвятое, і назавецца Сынам Божым. Вось і Альжбета, твая сваячка і яна зачала сына ў старасьці сваёй і гэты шосты месяц у яе, хоць яна і называецца няплоднаю, бо-ж у Бога ня будзе немагчымым ніводнае слова. І сказала Марыя: Вось я слуга Гасподняя, хай мне станецца па твайму слову. І адыйшоў ад яе анёл.

*

У гісторыі людзтва няраз здараецца так, што падзеі, якія маюць аграмаднае значэньне, адбываюцца ў вельмі сьціплых абставінах і толькі потым усё больш і больш разрастаецца іхняе дзеяньне. Якраз так маецца справа з тою добраю весткаю, якую прынёс з неба анёл Дзеве Марыі ў Назарэт, у невялікае і глухое мястэчка ў Галілеі. Аб ім нават ні разу не ўспамінаецца ў Старым Запавеце. Тымбольш была няведамаю для людзей з па-за Назарэту бедная дзяўчына Марыя, заручаная з такім-жа бедным Язэпам. Хоць Язэп і паходзіў з Давідавага роду, але быў зьбяднеўшым і займаўся сталярствам.

У момант зьяўленьня анёла Марыя магла быць зусім маладою, бо ў жыдоў дазваляліся заручыны нават у раньняй маладосьці і ўжо ад мамэнту заручынаў нарачоная праўна належала да будучага мужа і мусіла захоўваць яму абсалютную вернасьць.

У Назарэт да Марыі зьявіўся анёл у постаці чалавека, але ад яго праменявала нябесная веліч і яснасьць. І той нябесны вястун зьвярнуўся да Марыі з дзіўным прывітаньнем: »Радуйся, поўная ласкі, Госпад з табою!« Гэтае прывітаньне было для Марыі незразумелым, дык ня дзіва, што яна бачучы такога дзіўнага вястуна і чуючы ягонае прывітаньне, стрывожылася. Бо-ж яна ў сваёй прастаце, беднасьці і пакоры нават не дагадвалася, што мае нейкую асаблівую ласку і мае яе поўна, ды што з ею ёсьць Госпад.



1217. Бог дае на ўсіх долю.
Бог дарогаю, а чорт цалікам.
18б. Бог даў, а Ленін узяў.
градзе. (Адмова ў просьбе).
18б. Бог даў, а Ленін узяў.
19. Бог даў, Бог і ўзяў.
20. Бог даў гаспадыню (жонку), як мурашку.
21. Бог даў сьвята, а чорт работу.
Бог даў уход, Бог даў і выхад.
22. Бог даў цяля, ды ня даў хлява.
23. Бог допуст дапусьціў.
Бог доўга жджець, ды больна б'ець.
24. Бог доўга цярпіць.
25. Бог ды Бог, але і сам ня будзь плох.



Лацінска-грэцка-царкоўна-славянскі і Беларуска-лацінскі Слоўнік. Рым, 1959.




Часопіс »Божым Шляхам«, якого ініцыятарам і рэдактарам быў а. Архімандрыт Л. Гарошка і іншыя выданыя ім творы.

Гэтае зьдзіўленьне і трывога адбіліся ясна на яе абліччы. Дык анёл, не чакаючы яе запытаньня, сам выясьніў мэту свайго прыходу: »Ня бойся, Марыя, ты знайшла ласку ў Бога. І вось зачнеш у лоне і народзіш Сына і назавеш Яму імя Ісус«. Далей анёл выясьніў Марыі, што Ісус будзе не звычайны чалавек, але Сынам Найвышэйшага. Анёл не казаў, што Ісус будзе Сынам Божым, бо ў Старым Запавеце было забаронена вымаўляць імя Божае — Ягвэ, а замест гэтага ўжываліся апісовыя прыметнікі, якія выказвалі Божую веліч. Такімі-ж прыметнікамі анёл апісвае Мэссыю, што Ён будучы Сынам Найвышэйшага атрымае пасад Давіда і што будзе валадарыць у Якубавым доме, і што Ягонаму валадарству ня будзе канца.

Да такое вялікае годнасьці быць маткаю Мэссыі Бог выбраў Марыю дзеля яе надзвычайнае пакоры. Яна сама потым у набожнай песьні казала: »Ён зглянуўся на пакору свае рабы, бо адгэтуль шчасьліваю будуць называць мяне ўсе роды« (Лук. I, 48).

Марыя напэўна добра ведала прароцтвы адносна Мэссыі, бо ў тым часе было агульнае чаканьне Мэссыі. Таму яна магла ўяўляць, які вялікі гонар яе чакае, але-ж яна была ўжо заручанаю з Язэпам і да таго шлюбавала Богу дзявоцтва, а гэта ніяк ня сумяшчалася з мацярынствам, дык зьвярнулася да нябеснага пасланца з апраўданым пытаньнем: »Як-жа гэта магчыма, калі я ня знаю мужа?« Айцы Царквы і вучоныя біблісты вельмі многа разважалі над гэтым запытаньнем Марыі, выказваючы розныя дагадкі. Але наагул каталіцкія багасловы прызнаюць, што ў тым пытаньні Марыя хацела даведацца, як пагадзіць мацярынства з дзявоцтвам і вернасьцю заручанаму Язэпу.

Гэтую супярэчнасьць выясьняе анёл у імені Божым: »Дух Сьвяты найдзе на цябе і сіла Найвышэйшага ахіне цябе, таму і тое, што народзіцца з цябе — Сьвятое і назавецца Сынам Божым. Далей анёл паведаміў Марыю аб тым, што сталася з Альжбетаю, жонкаю Захарыі і ўканцы дадаў: »Бо ў Бога ня будзе немагчымае ніводнае слова«. Гэта значыць, што Бог умее так разьвязаць тую супярэчнасьць, што Марыя народзіць Сына і астанецца дзеваю. Пасьля гэтага выясьненьня замоўк анёл і нават сам Бог чакаў адказу Марыі. Бо даўшы людзям свабодную волю, Бог яе ніколі ня сілуе; і нават даўшы Марыі паўнату ласкаў, Ён ані на дрыбіну ня зьменшыў яе свабоднае волі, дык ад яе волі залежала прыняць, ці ня прыняць Божую прапанову. Усе чакалі адказу Марыі. Па хвіліне маўчаньня яна з поўнаю пакораю і аддансьцю Богу адказала: »Вось я слуга Госпадняя, хай мне станецца паводля твайго слова«.

У той момант адбыўся зваротны пункт у гісторыі збаўленьня людзкога роду. Сын Божы знайшоўся ў лоне Дзевы Марыі; знайшоўся на зямлі між людзей, але знайшоўся так, што быў нікому няведамы.

Тут мімаволі думкі пераходзяць на Беларусь, дзе 25-га сакавіка 1918 году ў маладамай салі чыгуначнікаў у Менску пасьля цэланочных дэбатаў Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвесьціла, што ад тады Беларусь зьяўляецца незалежнаю дзяржавою. І хоць той акт спачатку быў ведамы толькі актыўным патрыётам, але ён стаўся зваротным пунктам у нашай гісторыі і калісь напэўна прыйдзе час, што ён ажыцьцявіцца. Гісторыя ёсьць у Божых руках. А Бог хоць не скарон да цалён, кажа народная мудрасьць. Гэта бачна ў дзеле збаўленьня і ў кожнай іншай Божай дзейнасьці. Бог акуратна выконвае ўсе свае абяцаньні і выконвае іх у найбольш адпаведны час, хоць гэта і непадабаецца бязбожнікам.

Наагул ува ўсім дзеле збаўленьня людзей Бог выявіў сваю бесканечную любоў да людзей. А ў дабравешчаньні Бог выявіў вельмі ясна надзвычайную акуратнасьць і дыскрэцыю ў сваёй дзейнасьці і ў выкананьні сваіх плянаў.

Мы ў нашым асабістым, рэлігійным і грамадзкім жыцьці так-жа мусім мець пляны, але на тое, каб Бог памог іх ажыцьцявіць, каб іх належна выканаць, трэба ў іх прызначыць адпаведнае мейсца Богу, бо Ён нас найбольш любіць і найбольш нам спрыяе.

Толькі-ж як да Бога зьвяртацца? Ён-жа не пасылае кожнаму чалавеку нябесных пасланцоў. Гэта праўда. Але Бог даў кожнаму чалавеку сумленьне, дае ўсім людзям сваю навуку праз Ісуса Хрыста, дае сьвятые ласкі праз Хрыстовую Царкву, а ў асаблівых выпадках пасылае добрых людзей з добрымі радамі. Толькі з нашага боку мусіць быць шчырае жаданьне і добрая воля імкнуцца жыць згодна з Хрыстоваю навукаю і так зьвяртацца да Яго:

Мы хочам Бога ў шчасьці, горы,
Загадах улады, кнігах праў;
На полі горах і на моры
Закон Ягоны каб настаў.

Мы хочам Бога ў нашым краі,
Між беларускіх родных стрэх —
У нашай мове і звычаі
Ня можа мецi мейсца грэх.

Мы хочам Бога, Яго права;
Яго натхненьне — наш пачын;
Усё жыцьцё — Ягона слава;
Яго загад — наш кожны чын.

# ГУТАРКА АБ РЭЛІГІЙНЫХ МАТЫВАХ У БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЬЦІ

У беларускай культуры вусная народная творчасьць мае вельмі паважнае значэньне. Дзякуючы багацьцю вуснае народнае творчасьці беларуская літаратура змагла хутка разьвівацца і асягнуць высокі ўзровень. Але і да гэтага часу яшчэ творчасьць беларускіх пісьменьнікаў не заспакойвае ўсіх мастацка-літаратурных патрэбаў народу, бо акупацыйная ўлада і кіраўніцтва камуністычнае партыі моцна абмяжоўваюць літаратурную творчасьць, а дзеля гэтага яшчэ і далей вусная народная творчасьць зьяўляецца найбагацейшаю крыніцаю для заспакаеньня патрэбаў народнае душы.

Але на вялікі жаль цяперашняя акупацыйная улада налажыла сваю цяжкую руку і на народную творчасьць. Зьмест вуснае творчасьці быў не па душы партыйным верхаводам, дзеля гэтага зьявілася нямала загадаў і пастановаў, каб і вусную народную творчасьць ператварыць ў прыладу партыйнае агітацыі, як яны ператварылі мастацкую літаратуру. Але каб гэта выканаць трэба было-б зьмяніць зусім характар вуснае народнае творчасьці; шмат чаго павыкідаць і яшчэ больш стварыць таго, чаго зусім ня было ў той творчасьці. Што найбольш непадабалася партыйным верхаводам у вуснай народнай творчасьці — гэта рэлігійныя матывы.

Ведама, што вусная народная творчасьць ёсьць голасам душы народу. Значыць праз вусную творчасьць народ выказвае свае найглыбейшыя перакананьні і сваю веру. І вось усё тое, што выказвала беларуская народная творчасьць, востра супярэчыла камуністычна-матэрыялістычнаму сьветапагляду, які бязбожныя верхаводы сіламоц накідалі беларускаму народу. Дзеля гэтага партыйныя кіраўнікі пачалі сіламоц фальшаваць вусную народную творчасьць, ўводзячы ў яе напісаныя па загаду партыі агітацыйныя творы, а сапраўдную народную творчасьць пачалі гнобіць. Было пастаўлена цьверджаньне, што »ня ўсё тое народнае, што іншы раз бытуе ў самым народзе«. А што магло быць »ненародным«, вырашалі партыйныя верхаводы.

Калі-б узяць як мерку, што было сапраўды народным у вуснай творчасьці беларускага народу, выданьні друкам гэтае творчасьці, дык-бы трэба было сьцьвердзіць: амальшто нічога, бо за паўвяковы пэрыяд бальшавіцкага панаваньня выдана ўсяго пару невялікіх зборнікаў казак і два зборнікі беларускіх прыказак, якія адразу разышліся і больш не выдаюцца.

Сапраўднае аблічча адносінаў сучаснае ўлады да беларускае народнае вуснае творчасьці бадайшто найлепш відаць з такога факту. У 1969 годзе беларуская савецкая прэса падала да ведама, што Інстытут Мастацтвазнаўства Этнаграфіі і Фальклёру пры Акадэміі Навук БССР падрыхтоўвае да выданьня зборнік беларускае народнае творчасьці ў 30-ці томах і што выданьне пачнецца з апошняга тому, які пасьвячаны Леніну і будзе выданы ў гонар сотых угодкаў яго нараджэньня. Тымчасам ужо даўно мінулі тыя ўгодкі, а зборнікаў беларускае народнае творчасьці не зьявілася ніводнага тому; нават і таго, што меў услаўляць Леніна. І ў гэтым няма ніякага дзіва, бо тое, што сапраўды беларускаея народная творчасьць мае аб Леніну, не прапусьціць савецкая цэнзура, а падаваць як народную творчасьць творы партыйных пісьменьнікаў, было-б залішне яснаю хлусьнёю. Ведама, што такаю творчасьць была створана і аб Сталіну, але цяпер аб ёй нават і не ўспамінаюць. Вось-жа ня выдалі нічога[1].

Але затое ў гэтым часе зьявілася нямала розных кнігаў і артыкулаў, якія разглядаюць розныя тэарэтычныя пытаньні беларускае народнае творчасьці. І ўсе яны як правіла прысьвячаюць шмат мейсца антырэлігійнаму элемэнту ў гэтай творчасьці. Але што ў тых, творах лічаць за антырэлігійны алемэнт? Крытыку дрэнных духоўных! Сапраўды ёсьць нямала беларускіх казак, дзе высьмяваюцца нягодныя папы і ксяндзы. Але ці толькі яны адны высьмяваюцца? Беларуская народная творчасьць мае вельмі вострую іронію і высьмявае ўсіх бяз вынятку ліхіх людзей з усіх станаў: ліхіх жонак, сялян — гультаёў, п'яніцаў, урадоўцаў-хапугаў, пыхлівых. І зусім з гэткаю-ж іроніяю народная творчасьць бічуе тых нягодных духоўных, што сталіся духоўнымі »Не для Ісуса, а для хлеба куса«. Калі такую крытыку лічыць антырэлігійным вуступленьнем, дык трэба так-жа ўсякую крытыку нягодных камуністаў лічыць контррэвалюцыяю, а сла-

1) Як дагэтуль вышла 13 т. Бел. Нар. Творчасьці.

вутую крытыку і самакрытыку на партыйных зборках трэба было-б лічыць антыкамуністычнаю прапагандаю. Пры гэтай нагодзе варта заўважыць, што няраз у рэлігійных газэтах і часапісах можна стрэнуць шмат горшую крытыку дрэнных духоўных і ніхто гэтага не рахуе антырэлігійным выступленьнем.

А ў сапраўднасьці казкі і прыказкі, у якіх высьмейваюцца дрэнныя духоўныя, зьяўляюцца выявам глыбокае пашаны беларускага народу да ўсяго рэлігійнага і да ўсяго сьвятога. Сьвятарскі стан беларусы ўмеюць належна ацэньваць. Калі царскі ўрад скасаваў Вунію і паразганяў шчырых сьвятароў, а на іх мейсца пачаў прысылаць расейцаў бяз глыбокае веры, дык зьявілася прыказка: »Даўней былі чашы дзеравянныя, а папы залатыя, а цяпер чашы залатыя, але папы дзеравянныя«.

Але наагул казак і прыказак аб дрэнных духоўных ёсьць ня шмат, затое ёсьць шмат прыгожых і глыбокарэлігійных казак, легэндаў, прыказак і аграмадная колькасьць пабожных абрадавых і духоўных песень. Некаторыя казкі з рэлігійным зьместам сягаюць аж дахрысьціянскіх часоў: напрыклад казкі аб сатварэньні сьвету, жывёлаў і аб беларускай міталёгіі. А ячэ больш ёсьць казак, прыказак і песень з хрысьціянскіх часоў. Пры тым некаторыя казкі маюць вельмі глыбокі зьмест і надзвычайна мастацкую форму — яны зьяўляюцца сапраўднымі літаратурнымі пэрламі. Напрыклад казка »Марка Пякельны«, запісана ў зборніку Сержпутоўскага — гэта быццам кароценькая »Боская камэдыя« Алігіеры Дантэ. І вось аб усіх гэтых творах савецкія аўтары нават і не заікаюцца. Затое шмат расьпісваюцца аб тым, чаго ніколі ня было і цяпер няма ў вуснай народнай творчасьці, але што стварылі іхныя бязбожныя агітатары. Гэта сьведчыць якую бязьлічную хлусьню выпісваюць савецкія аўтары, пішучы аб народнай творчасьці. Для прыкладу можна назваць кнігу »Беларуская вусна-паэтычная творчасьць«, якую выдана ў Менску ў 1967 годзе, у якой ажно дзьве трэція часьці кнігі прысьвечана марксізму і сацыялізму і творам расейскіх пісьменьнікаў: Некрасова, Зотова, Коца, Багдавана, Горкага і інш.

Вялікую частку беларускае народнае творчасьці станавілі абрадавыя і бытавыя песьні. Большая частка з іх зьяўляюцца рэлігійнымі, асабліва тыя, што прысьвячаны рэлігійным сьвятам: Шчадроўскія, Юр'еўскія, Мікольскія, Пятроўскія. Так-жа шмат чыста рэлігійных песень ёсьць між валачобных і калядных песень. Асобнае мейсца ў народнай творчасьці займаюць духоўныя песьні. Зразумела, што іх аніяк нельга пагадзіць з антырэлігійнаю прапагандаю. Але гэта былі вельмі пашыраныя ў народзе песьні, бо іх сьпявалі лірнікі, старцы, а так-жа часта іх сьпявалі на зборках папрадухаў і на вячорках ў Вялікі пост. І вось камуністычныя агітатары насупраць усіх відавочных фактаў стараюцца даказваць, што гэта зусім не народная творчасьць, але нібыта творы клерыкалаў. Хоць самыя-ж агітатары прызнаюць, што некаторыя з тых песень вельмі старыя, бо былі ведамы нават у старадаўнай Русі. Дадайма да гэтага цьверджаньня, што тады яшчэ ня было клерыкалаў, як ня было і камуністычных агітатараў.

Асабліва шмат маюць рэлігійнага элемэнту беларускія прыказкі. Нават Кандрат Крапіва, які напісаў пародыю на Біблію, у сваім артыкуле аб беларускіх прыказках змушаны быў прызнаць, як неаспрэчны факт, што »Сярод прыказак, у якіх адбіліся вераваньні народу, першае мейсца займаюць такія, дзе аб'ектам зьяўляецца Бог« (Збор. Тв. т. 2, с. 391, Менск 1956). Аднак насупраць гэтага цьверджаньня ў двух зборніках прыказак, якія былі выданы ў Менску некалькі гадоў таму, няма зусім прыказак з рэлігійным зьместам, а затое ёсьць асобныя разьдзелы з антырэлігійным зьместам, у якіх пераважна пабожныя народныя прыказкі перакручаны на бязбожны лад. А разам з імі зьмешчаны звычайныя бязбожныя клічы.

Бязумоўна ўсе гэтыя факты маюць сваю вымову. Ды не абы якую вымову. Яны сьведчаць, што бязбожныя агітатары ў дачыненьні да вуснае народнае творчасьці, займаюцца сьведамаю хлусьнёю, а тым самым яны выяўляюць, што самі ня вераць у сваю пісаніну, бо самі добра ведаюць, што ня маюць ніякіх пераканаўчых доказаў на карысьць бязбожнае агітацыі, дзеля гэтага хапаюцца за хлусьню, трымаючыся дырэктывы Леніна: »паўтары сто разоў няпраўду, дык станецца праўдаю«. Але ў сапраўднасьці хлусьня ніколі ня станецца праўдаю, хоць-бы яе паўтаралі мільёны разоў.

Тое, што зьяўляецца на старонках савецкага друку, гэта ўжо ня ёсьць вусная народная творчасьць, але савецкая творчасьць. А сапраўдная вусная народная творчасьць астаецца і далей у сэрцы народных масаў, захаваная ад усякіх фальшаваньняў з глыбокімі рэлігійнымі матывамі. І ніякія агітатары ня могуць змяніць гэтага факту. Бо як кожная расьліна імкнецца сваім верхам да сонца, так народная душа імкнецца да Бога. І аб гэтым вымоўна сьведчыць вусная народная творчасьць усюды там, дзе можа свабодна праяўляцца.

## ДОМ СЬВЯТОГА АПОСТАЛА ПЯТРА Ў КАПЭРНАУМЕ

Тры гады таму, дакладней кажучы, у 1968 годзе газэты падалі кароткае паведамленьне, што археалягічныя раскопкі на мейсцы старога палестынскага гораду Капэрнауму між іншымі цікавымі знахадкамі, знойдзены такжа дом Пятра. І як звычайна бывае з газэтнымі весткамі, аб ёй больш не ўспаміналі. Тымчасам яна мае паважнае значэньне для рэлігійнае гісторыі, дык варта прыпомніць і самую тую знахадку і яе гісторыю.

Сам горад Капэрнаум ляжаў на паўночна-заходнім беразе Тыбэрыядзкага возера ў паўночнай Палестыне, што звалася Галілея. Ён даўно ўжо быў зруйнаваны і знайходзіўся пад тоўстым пластам наноснага пяску і зарасьнікаў, з-пад якіх выставалі толькі некаторыя мацнейшыя сьцены. Але каля 1800 году бэдуіны дарэшты развалілі тыя сьцены, так што ад калішняга гораду навонках ня відаць было нічога.

У 1894 годзе францускае згуртаваньне, што называецца Кустодыя Сьвятое Зямлі купіла той абшар руінаў і пачала рабіць раскопкі. Праца йшла вельмі паволі, бо было мала работнікаў. Але ў 1905 годзе прыйшла з помаччу нямецкая арганізацыя »Нямецкае Усходняе Таварыства«. Экспэдыцыя таго Таварыства пад кіраўніцтвам прафэсароў Кооль і Войцынгер хутка ачысьцілі цэнтральную часьць горада, знайшлі руіны сынагогі і там сканцэнтравалі свае пошукі ўглыб.

З мамэнтам выбуху першае сусьветнае вайны ў 1914 годзе раскопкі былі спынены і распачаліся толькі ў 1921 годзе. Гэтым разам зноў узялася за працу экспэдыцыя Францускае Кустодыі Сьвятое Зямлі але цяпер працамі кіраваў вопытны археалёг Орфалі. Яны знайшлі руіны васьмікутнае бізантыйскае базылікі, а затым ачысьцілі руіны ўсіх будынкаў між сынагогаю і базылікаю. На няшчасьце ў 1926 годзе памёр археолёг Орфалі і раскопкі былі зноў спынены.

Толькі ў 1968 годзе ўжо новая экіпа Францускае Кустодыі Сьвятое Зямлі пад кіраўніцтвам айца Віргія Корбо ўзялася нанава за раскопкі. Гэтым разам пошукі канцэнтраваліся каля васьмікутнае базылікі і суседніх будынкаў ды накіраваліся ўглыб. Хутка пад базылікаю былі знойдзены руіны некалькі старэйшых будынкаў. Керамічныя чарапы і манэты, якія там былі даволі шматлікія, адназгодна сьведчылі, што тыя будынкі былі з першага стагодзьдзя нашае эры. А пад фундамэнтамі тых будынкаў ужо была нярушаная зямля.

Калі былі расчышчаны руіны ўсіх будынкаў, што знайходзіліся пад базылікаю і вакол яе, дык выяўлена, што дом, які знайходзіўся ў цэнтры пад базылікаю, быў калісьці ў асаблівай пашане ад першага веку. А ў пятым веку той дом абрушыўся і над ягонымі фундамэнтамі і фундамэнтамі суседніх дамоў была збудавана васьмікутная базыліка. Даўней, калі будавалі нейкі дом на мейсцы старога будынку, дык фундамэнтаў не чапалі, а толькі плянтавалі ўсе руіны да аднаго ўзроўню. Дзеля гэтага фундамэнты старых дамоў пад базылікаю захаваліся даволі добра. На мейсцы тае базылікі і яе беспасрэднага акружэньня калісьці было 12 невялікіх дамоў, толькі адзін з іх крыху большы.

Фундамэнты тых дамоў зроблены з грубых чорных базальтавых камянёў, якіх і цяпер яшчэ поўна на ўзьбярэжжы возера. Дзіркі між каменьнем запаўнялі драбнейшымі камянямі і замазвалі гразьзю. Толькі проймы для дзьвярэй выкладалі абчэсанымі камянямі. Зразумела, што такія сьцены не маглі ўтрымаць мураванага скляпеньня. Хоць на мейсцы раскопак ня знойдзена ніводнага цэлага дому, але канструкцыя сьценаў кажа сама за сябе, што столь на такіх дамох рабілася з дзеравянных папярэчкаў, накрытых мешанінаю гразі з саломаю. Іх можна было лёгка раскрываць. У Эвангельлі гаворыцца, што аднойчы і якраз у Капэрнауме, людзі рассунулі столь у доме, дзе навучаў Хрыстос, і спусьцілі перад ім на лежаку аднаго паралітыка, якога Ён аздаравіў.

Замест падлогі ў дамох быў ток звычайна чорнага колеру дзеля прымесі попелу, або дробна сьцертых базальтаў. У некаторых дамох ток мае некалькі пластоў. І гэта між тымі пластамі току знойдзена шмат розных рэчаў і манэтаў, якія даюць магчымасьць дакладна азначыць век дамоў. Яны ўсе паходзяць з першага да пятага веку нашае эры.

Між тых 12 домікаў вырозьніваецца цэнтральны дом. Ягоны фундамэнт амаль квадратны: 7 мэтраў на 6 з палавінаю. Ён меў двое дзьвярэй і ажно адзінаццаць пластоў току. У адрозьненьне ад іншых дамоў у ім два апошнія пласты току выбіты з вапняކоў, а ў некаторых сярэдніх пластох ёсьць дамешка вапны. Навонках гэты дом быў зусім такі-ж, як іншыя, толькі крыху большы, але ўнутры гэта быў адзіны дом,

які меў атынкаваныя сьцены, на якіх яшчэ захаваліся сьляды каляровае дэкарацыі.

Паміж пластамі токаў у тым доме знойдзена вельмі многа плітак з напісамі. З іх 124 напісаны па-грэцку, 18 па-сірыйску і 15 па-гэбрайску. Некаторыя пліткі так разьбітыя, што немагчыма прачытаць, што там было напісана. А на тых, што льга прачытаць шмат маюць малітоўную просьбу па-грэцку »Элейзо, амэн« — значыць: зьлітуйся, аман, або іншую просьбу »Кірыё Езу Хрыстэ боэтэ — Госпадзе, Езу Хрысьце, памажы!« На іншых-жа плітках выпісана імя Пятра.

Наагул усе археалягічныя знахадкі ў тым доме сьведчаць адназгодна аб тым, што той дом ад першага веку нашае эры быў мейсцам культу для юдэо-хрысьціянскае грамады ў Капэрнауме.

У зьвязку з гэтымі археалягічнымі знахадкамі неабходна яшчэ прыгадаць старадаўную хрысьціянскую традыцыю, якая сьведчыць, што калішні дом апостала Пятра ў Капэрнауме быў у вялікай пашане ў хрысьціян ад найдаўнейшых часоў і стаўся мейсцам культу. І гэта зусім зразумела, бо-ж той дом быў ня толькі домам вярхоўнага апостала Пятра, але быў так-жа тым адзіным домам, у якім найчасьцей затрымоўваўся Хрыстос у часе свае публічнае дзейнасьці. Там Ён аздаравіў цешчу Пятра, а затым шматлікіх іншых хворых; туды прыносілі Яму спараліжованага і зьвешвалі праз раскрытую столь; там-жа Хрыста шукала Ягоная маці з блізкімі роднымі, там Хрыстос, абняўшы дзіця, паказваў яго сваім апосталам, каб навучыць іх шчырае пакоры; там Ён тлумачыў апосталам прыповесьці і паясьняў дакладней сваю навуку. Таму для хрысьціян той дом быў асьвячаным мейсцам. Дык ня дзіва, што хутка стаўся мейсцам культу і да яго былі дададаныя дзьве прыбудоўкі, адпаведна да патрэбаў сьвятыні. А ў палавіне пятага веку на руінах таго дому пабудована васьмікутную бізантыйску базыліку. Гэткім чынам традыцыя адносна таго дому была бесперарыўная.

Першая дакументальная вестка адносна дому Пятра паходзіць ад гішпанца Эгэрыя, які ў гадох 381-384 рабіў паломніцтва ў сьвятую Зямлю і ў сваіх запісах кажа (цытуем): »Дом вярхоўнага апостала ў Капэрнауме заменена на сьвятыню. Ягоныя муры яшчэ не пашкоджаны. У тым доме Госпад аздаравіў паралітыка« (канец цытаты). Два стагодзьдзі потым ананімны аўтар з італьянскага гораду П'ячэнца пісаў каля 570 году, што на мейсцы, дзе быў дом Пятра цяпер знайходзіцца царква. Відавочна ён мае на думцы васьмікутную бізантыйскую базыліку, аб якой ўжо ўспаміналася перш.

Вось-жа археалягічныя раскопкі выявілі сьвятыню з часоў Хрыста, якая ўспамінаецца ў Эвангельлі і аб якой захавалася адназгоднае сьведчаньне хрысьціянскае традыцыі. І гэтыя абодва сьведчаньні зусім згодныя з сабою ад першага веку і аж да часу зруйнаваньня тае сьвятыні.

Знахадка дому Пятра ў Капэрнауме сама ў сабе зьяўляецца толькі дробным фактам з царкоўнае гісторыі, але яна мае вельмі вымоўнае значэньне, бо яна не адна; падобных фактаў ёсьць шмат. Археалягічныя раскопкі на абшары Палестыны і сумежных краінаў, запачаткаваныя ў палове мінулага стагодзьдзя, прыносяць мноства фактаў, якія поўнасьцю падцьвярджаюць весткі, апісаныя ў Сьвятым Пісаньні. Успамінаем аб гэтым дзеля таго, што бязбожная прапаганда розных кірункаў, ад таго часу, як толькі археалягічныя пошукі пачалі рабіць у Палестыне першыя крокі, цьвярдзіла і яшчэ цяпер цьвердзіць, быццам археалёгія не знайходзіць ніякіх доказаў на падцьверджаньне Сьвятога Пісьма. Як бачым гэткае цьверджаньне зьяўляецца нічым іншым, як самаю звычайнаю хлусьнёю, бо археалягічных знахадкаў, якія сьведчаць аб праўдамоўнасьці Сьвятога Пісьма ёсьць толькі, што нямецкі вучоны Вэрнэр Кэльлер выдаў у 1955 годзе вялікую кнігу пад загалоўкам »Біблія ўсётакі мае слушнасьць«, у якой сабраныя тыя факты. Толькі аб такіх фактах і знахадках зусім не ўспамінае бязбожная прапаганда; яна стараецца іх прамаўчаць. Аднак тыя знахадкі не маўчаць. Калісьці, як ерузалімскія дзеці голасна славілі Хрыста, дык жыдоўскія старшыны казалі Яму, каб забараніў ім. Тады Хрыстос адказаў ім: »Калі яны замоўкнуць, дык каменьні загалосяць«. Цяпер крыху ў іншым значэньні, але спраўджваюцца словы Хрыста: каменьні з старых гарадоў голасна абвяшчаюць на ўвесь сьвет аб праўдзівасьці сьвятога Эвангельля.

## СЬВЯТОЕ ЭВАНГЕЛЬЛЕ НА СЯМНАЦЦАТУЮ НЯДЗЕЛЮ ГОДУ, ЗАПІСАНАЕ Ў СЬВЯТОГА МАТЭЯ Ў РАЗЬДЗЕЛЕ ТРЫНАЦЦАТЫМ (44-52)

Сказаў Госпад гэткую прыповесьць: »Нябеснае Валадарства падобнае да скарбу, схаванага ў полі, які знайшоўшы, чалавек прыкрывае і ў радасьці ад гэтага, ідзе і прадае ўсё, што мае і купляе тое поле. Зноў-жа Нябеснае Валадарства падобнае да чалавека купца, які шукае добрых пэрлаў. І знайшоўшы адну дарагую пэрлу, пайшоў і прадаў усё, што меў, і купіў яе. Зноў падобнае Нябеснае Валадарства да неваду, які закінены ў мора, набірае ўсякага роду рыбы. Калі-ж ён напоўніўся, яго вытягнулі на бераг і, сеўшы, добрае сабралі ў судзіны, а дрэннае выкінулі вон. Так будзе пры сканчэньні сьвету; выйдуць анёлы і выдзеляць дрэнных спасярод праведных. І ўкінуць іх у вагністую печ; там будзе плач і скрыгат зубоў. Ці вы зразумелі ўсё гэтае?« Яны кажуць: »Так!« Ён-жа сказаў ім: »Вось чаму кожны кніжнік, навучаны аб нябесным Валадарстве, падобны да гаспадара, які выносіць з свае скарбніцы новае і старое«.

*

Хрыстос гаварыў шмат прыповесьцяў аб Нябесным Валадарстве і кожная з іх выказвае паасобныя рысы і ўласьцівасьці Нябеснага Валадарства. Толькі пры гэтым трэба заўважыць, што ў Эвангельлі Лукаша яно называецца Божым Валадарствам. Гэтая розьніца ў назове абумоўлена тым, што Эвангельле Матэя ў першую чаргу было прызначана для хрысьціян у Палестыне і для жыдоў, а жыдом было забаронена называць Бога па імені і таму яны замест слова Бог ужывалі іншыя апісовыя словы. У даным выпадку слова Бог заменена словам неба, але праз гэта ні ў чым не зьмяняецца зьмест прыповесьцяў.

Хрыстос часта гаварыў аб Нябесным Валадарстве і найчасьцей гаварыў аб ім прыповесьцямі, каб зьвяртаючы ўвагу на розныя ўласьцівасьці Нябеснага Валадарства, выказаць усебакова ягоную сутнасьць: што яно зьяўляецца тым найважнейшым у жыцьці, да чаго чалавек павінен імкнуцца ўсімі сваімі сіламі.

У прыповесьці аб схаваным скарбе выказваецца, што Нябеснае Валадарства ня ёсьць відавочным для кожнага, але яно зьяўляецца найдаражэйшым скарбам для чалавека. Той скарб ёсьць схаваны і яго хтосьці наўмысна схаваў. Многа людзей ходзіць каля яго і ня бачыць яго. Толькі дзякуючы Божай ласцы яго знайходзіцца. Але знайсьці той скарб, гэта яшчэ ня ўсё; яго неабходна здабыць на ўласнасьць згодна з правам і пры тым не шкадаваць ніякіх выдаткаў для яго здабыцьця. Ужо на пачатку свае публічнае дзейнасьці Хрыстос гаварыў аб аграмаднай розьніцы між дачаснымі земскімі скарбамі і нябесным скарбам, ды казаў зьбіраць сабе нябесныя скарбы: »Ня зьбірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль і ржа іх нішчыць і дзе зладзеі падкопваюцца і крадуць, але зьбірайце сабе скарбы на небе, дзе ні моль ні ржа іх ня нішчыць і дзе зладзеі не падкопваюцца і не крадуць« (Мат. 6, 19-20). Тыя нябесныя скарбы ня толькі такія, што іх ніхто ня можа ўкрасьці, але бесканечна больш вартасныя, чым усе дачасныя земскія скарбы. Дзеля гэтага той, што знайшоў вялікі схаваны сапраўдны скарб у полі, прадаў усё дачаснае, каб купіць той нябесны скарб. Гэта значыць, што ён поўнасьцю ўспрыняў навуку Хрыста і пасьвяціўся Богу.

Гэтая прыповесьць аб схаваным скарбе заўсёды зьяўляецца вельмі актуальнаю. Вось і цяпер, шмат хто з недаверкаў насьміхаецца з веруючых людзей, пытаючыся: »Што вам дае рэлігія?« А гэткае пытаньне ёсьць тым самым, калі-б пыталі ў таго, што знайшоў на полі вялікі сапраўдны скарб: »Нашто табе купляць тое шэрае поле? Нашто за яго плаціць так дарага, што аж прадаваць усю маемасьць?« Але тыя, што так пытаюцца, нават і не дагадваюцца, які ў тым полі ёсьць скарб, бо яго ня відаць. Таксама тыя, што выступаюць супраць рэлігіі, нават ня хочуць ведаць, якія скарбы ёсьць у рэлігіі, бо яны схаваныя, яны не ляжаць на дарозе.

У прыповесьці аб дарагой пэрле выказваецца аграмаднае прыгаство Нябеснага Валадарства. Нават у матэрыяльным сьвеце Бог рассыпаў многа прыгаства, дык тымбольш Ён улажыў нявымоўнае прагаство ў Нябеснае Валадарства. Дзеля гэтага той, што знайшоў добрую пэрлу, не шкадуе нічога, каб здабыць яе.

Гэта прыповесьць тым розьніцца ад папярэдняй, што дарагую пэрлу чалавек-купец не спаткаў прыпадкам, але яе шукаў і знайшоў. У асобе таго купца Хрыстос прадстаўляе ўсіх тых шукальнікаў, якія шчыра шукаюць рлігійнае праўды і калі яе знайходзяць, дык прыймаюць шчырым сэрцам. Гісторыя ведае шмат такіх людзей шукальнікаў як: Аўгустын, Паскаль, Ньюман, Шатабрыян

і шмат іншых. У наш час, калі яшчэ існуе царкоўны падзел і калі існуе мноства сэктаў, да тых шукальнікаў належаць усе тыя, якія шчыра шукаюць рэлігійнае еднасьці, а таксама і тыя, якія шукаюць прыгаства хрысьціянскага жыцьця ў захаваньні эвангельскіх радаў.

Прыповесьць аб невадзе мае іншы характар. Яна выясьняе, як гэта магчыма, што ў Хрыстовай Царкве побач праведных людзей і вялікіх сьвятых ёсьць мноства нягодных людзей. Бязбожная прапаганда з жыцьця дрэнных сьвятароў часта чэрпае матэрыял для свае антырэлігійнае дзейнасьці. І вось усім тым, што шукаюць толькі дрэннага ў рэлігійным жыцьці, Хрыстос даў ясны адказ. Невад у той прыповесьці — гэта Хрыстовая Царква; яна прызначана для ўсіх людзей бяз вынятку і таму яна прыймае ўсіх, подобна як невад захоплівае ўсякую рыбу і нават ўсякую нечысьць. Невад не разьбірае добрых і дрэнных рыбаў. Толькі ўканцы рыбакі выбіраюць добрую рыбу, а дрэнную выкідаюць. Так уканцы сьвету на апошнім судзе анёлы падзьдзеляць добрых ад дрэнных.

Праца таго Хрыстовага неваду, Хрыстовае Царквы, мае трываць да канца сьвету, бо толькі тады Хрыстовая Царква закончыць сваю дзейнасьць. І вось Хрыстовая Царква цяпер зьбірае людзей не на тое, каб яны асталіся такімі, якімі ёсьць, але на тое, каб дрэнных зрабіць добрымі, а добрых зрабіць дасканалымі, каб давесьці да сьвятасьці. Яшчэ ясьней Хрыстос выказаў гэтую праўду ў прыповесьці аб заквасцы, якая ператварае муку ў хлебнае цеста. Дрэннаю рыбаю, якую выкідаюць вон для Хрыста астаюцца толькі тыя людзі, якія зусім ня прыймаюць Хрыстовае навукі, або прыняўшы, зусім яе ня выконваюць.

Усе тры гэтыя прыповесьці былі ўзятыя з тых жыцьцёвых зьявішчаў, якія апосталам былі добра ведамымі, таму і сэнс прыповесьцяў для іх быў ясны, таму на запытаньне Хрыста, ці яны разумеюць іх, яны адназгодна адказалі патакуючa.

Наогул уся Хрыстовая навука мела тую самую аснову, якая была ў Старым Запавеце, але да таго яна мела яшчэ многа новага, бо яна зьдзейсьнівала ўсе абяцаньні, якія былі выказаны ў Старым Запавеце, праз гэта яна мела многа новага. Таму Хрыстос зьвярнуў увагу апосталаў на тую істотную азнаку. Паколькі яны былі прызначаны стацца настаўнікамі, каб выконваць тую ролю, якую перш выконвалі кніжнікі, каб адрозьніваліся ад вузка-абмежаваных старазапаветных кніжнікаў тым, што павінны ўмець карыстацца і з новага і з старога скарбу біблійнае навукі. Хрыстос казаў апосталам, каб яны былі падобнымі да таго разумнага гаспадара, які ўмее добра карыстацца і старымі і нованабытымі рэчамі. Згодна з гэтаю навукаю Хрыста ўжо ад найдаўнейшых часоў хрысьціяне карыстаюцца з праўдзівых скарбаў старадаўнае традыцыі, разумеючы яе глыбей, чым даўнейшыя кніжнікі, бо маюць да гэтага лепшае сьвятло навукі Хрыста. Ды і самую навуку Хрыста разумеюць як неадздзельную суцэльнасьць ад ўсяго Божага Аб'яўленьня.

Заўвага Хрыста аб старым і новым зьяўляецца адною з істотных азнакаў Ягонае навукі. Дык усе тыя, што не зьвяртаюць увагі на гэтую заўвагу Хрыста, а захапляюцца толькі паасобнымі сказамі з Ягонае навукі ці з Ягонае дзейнасьці, не зьвяртаючы належнае ўвагі на суцэльнасьць Ягонае навукі, страшэнна памыляюцца і ўпадаюць у розныя гэрэзыі. Навука Хрыста гэта быццам невад, які мае тысячы дробных вочак, але якія спалучаны ў адно целае і непадзельнае; пацягні за адно вочка і будзеш цягнуць увесь невад, вырві частку неваду, зробіш яго няздатным да лову.

На гэтую акалічнасьць неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу ў зьвязку з сучасным экумэнічным рухам, якога некаторыя не разумеюць і тлумачаць фальшыва, як абыякавасьць да асноўных праўдаў веры. А тымчасам экумэнічны рух якраз павінен мець за ўзор таго разважнага гаспадара, які ўмее захоўваць традыцыю і карыстацца з новага. А новым у экумэнічным руху ёсьць ўзаемная любоў і шчырае шуканьне магчымасьцяў да паразуменьня і пераадоленьня ўсяго таго, што цяпер дзеліць хрысьціян.

Ува ўсіх тых пошуках заўсёды павінна аставацца непарушнаю апошняя мэта людзкога жыцьця — асягненьне Нябеснага Валадарства. Гэта значыць жаданьне ня толькі стацца ў нябесным невадзе добрым Божым дзяцём, але таксама дапамагчы нашым бліжнім асягнуць найвышэйшую мэту жыцьця — увайсьці ў Нябеснае Валадарства.

УПРАВА Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане зьвяртаецца да суродзічаў з просьбай прысылаць беларускія цэннасьці, як манэты, рукапісы, друкі, здымкі і інш. на адрас:

THE FRANCIS SKARYNA BYELORUSSIAN LIBRARY,
37 HOLDEN ROAD, LONDON, N12 8HS

## ЗЬМЕСТ

*Біскуп Ч. Сіповіч* — АРХІМАНДРЫТ ЛЕЎ ГАРОШКА (26.II.1911-28.VII.1977) . . . . . . . . . . . . . 2

ВАЖНЕЙШЫЯ ДАТЫ З ЖЫЦЬЦЯ АРХ. ЛЬВА ГАРОШКІ . . 4

ВЫКАЗАНЫЯ СПАЧУВАНЬНІ . . . . . . . . . . . . 4

ВОДГУКІ У РАДЫЁ І ПРЭСЕ . . . . . . . . . . . . . 5

ЛЮДЗІ І МЕСЦЫ ЗЬВЯЗАНЫЯ З АСОБАЙ І ДЗЕЙНАСЬЦЮ АРХІМАНДРЫТА ЛЬВА ГАРОШКІ У ЗДЫМКАХ . . 6-38

З РУКАПІСНАЙ СПАДЧЫНЫ:

1) Гутарка: »У дзень Дабравешчаньня 25 Сакавіка« 39

2) Гутарка аб: »Рэлігійных матывах у беларускай народнай творчасьці« . . . . . . . . . . . 43

3) Гутарка на тэму: »Дом сьв. Апостала Пятра ў Капэрнауме« . . . . . . . . . . . . . . . 45

4) Сьвятое Эвангельле на сямнаццатую нядзелю году, запісанае ў сьвятога Матэя ў разьдзеле трынаццатым (44-52) . . . . . . . . . . . . . . . . 47

*Printed by the Ukrainian Publishers Limited 200 Liverpool Rd., London, N1 1LF.*